

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№70(583) 15 красавіка 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 618667 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### К нам едет президент. И не один

**На завтра в штаб-квартире СНГ в Минске назначена встреча руководителей государств Содружества.**

На ней предусматривается обсуждение инициатив, с которыми выступил Президент России Борис Ельцин в своем обращении к руководителям государств СНГ в середине марта. В частности, он высказался за "более конкретное организационное оформление и создание органов по добровольной координации действий СНГ", за необходимость реальных инструментов ликвидации "горячих точек", профилактики возникновения новых очагов напряженности, за срочное использование такого механизма, как коллективные миротворческие силы.

**Лариса КЛЮЧНИКОВА.**

### ГКЧП — в ореоле героев?

**Вчера утром в здании Верховного суда России открылся процесс по делу ГКЧП.**

Многие сторонники подсудимых, их родственники пришли в зал заседания суда с огромными букетами роз. Подсудимые явились в зал с опозданием на 7 минут, улыбаясь и раскланиваясь. С первых минут заседания адвокаты ринулись в атаку на состав суда. Тон всему оркестру задавал А.Лукьянов, был как бы негласным режиссером. Г.Янаев, несмотря на свою бесшабашную самоуверенность, почему-то усиленно прятал от камер корреспондентов свои руки в карманах брюк.

Одновременно у здания Верховного суда собрались сторонники подсудимых с лозунгами в поддержку гэкачепистов.

**Леонид ФАДЕЕВ.**

### Надою-ка я ведерко валюты...

**Не денежными купюрами, а натуральными продуктами будут нынче расплачиваться за дефицитные промтовары хозяева крестьянских подворий Витебщины, получающих, в отличие от колхозов и совхозов, все больше животноводческой продукции.**

Чтобы спасти горожан от недоедания, облисполком выделил для продажи активным сдатчикам молока и мяса тысячи полезных и редких в госторговле вещей: холодильники, стиральные машины, мотоблоки, телевизоры, ковры и т.п. Вот только не попадет ли часть поощрительного фонда в "липкие" руки местной "знати", как это неоднократно случалось в предыдущие годы?

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

### Женщины вам покажут!..

**Несколько дней, начиная с 21 апреля, Минск будет смотреть на мир женскими глазами.**

На организуемом здесь международном фестивале женского кино будут представлены документальные, игровые, анимационные ленты, созданные женщинами-режиссерами, сценаристами, операторами. Фестиваль, на который приглашены около 200 участниц из разных стран мира, выйдет за рамки явления искусства. В его программу включен обмен мнениями по экологическим, политическим, экономическим проблемам с участием женщин-политиков и бизнесменов.

**Ирина ФЕДОРОВА.**

### Люди рассудят?

**Впервые в истории Витебского областного Совета его президиум дал добро на голосование об отзыве народного депутата.**

Сегодня в Понизовском избирательном округе Оршанского района начинаются собрания избирателей, участники которых должны решить судьбу представительского мандата директора племзавода "Заднепровский" Юрия Савицкого. Инициаторами кампании против руководителя стали его подчиненные, обвинившие Юрия Георгиевича в злоупотреблении служебным положением и диктаторских замашках.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Спорт-экспресс

В Будапеште завершился первый отборочный тур Кубка Европы по художественной гимнастике. Белорусская спортсменка Лариса Лукьяненко стала победительницей в многоборье, два первых и одно второе место заняла Лариса и в упражнениях с предметами.

Кроме того, белорусская сборная победила в неофициальном зачете.

❑

Завершился хоккейный турнир на большой приз Санкт-Петербурга. В заключительном матче белорусская сборная переиграла россиян — 2:0 и заняла третье место вслед за командами Швеции и Финляндии.

### Видно, сильно прижало...

**Пентагон, желая пополнить свой урезанный бюджет, готовится к продаже неограненных алмазов общей массой 1 млн. каратов, сообщила газета "Уолл-стрит Джорнэл".**

Алмазы эти относятся к стратегическим запасам страны и хранятся в национальном резервном центре Пентагона в Арлингтоне (штат Вирджиния) на случай глобальной войны.

**Александр ПАХОМОВ.**

### Хватит сочинять-то!

**В Китае запрещены публикации биографий бывших китайских руководителей, искажающие исторические факты.**

Отдел пропаганды ЦК КПК и управление по делам печати и издательства КНР опубликовали постановление, в котором подчеркивается, что материалы о жизни и работе бывших руководителей должны быть серьезными, правильными и "здоровыми".

**Владимир ФЕДОРУК.**

### С.Шушкевич выходит в прямой эфир

**Сегодня в 19.10 по программе Белорусского телевидения начнется встреча в прямом эфире с Председателем Верховного Совета республики.**

В течение часа С.Шушкевич ответит на вопросы ведущего и зрителей — об итогах внеочередной парламентской сессии, проблеме подключения Беларуси к договору о коллективной безопасности, предполагаемом референдуме, путях преодоления кризиса власти и экономики...

Номера телефонов, по которым можно будет связаться со студией, вам сообщат в начале передачи.

### Беларусь — Польша: военное согласие?

**21 и 22 апреля в Минске состоится встреча министров обороны Республики Беларусь и Республики Польша.**

Как сообщили в пресс-центре Министерства обороны Беларуси, Павел Козловский и Януш Онышкевич поведут разговор о подписании военного соглашения между двумя соседними государствами.

### Только пореже бы звучал сигнал тревоги

**В деревне Борщевка Речицкого района на месте бывшей воинской части расквартирован отдельный аварийно-спасательный батальон.**

Возглавил его полковник Кравченко. Батальон создан по решению белорусского правительства и предназначен для ведения неотложных аварийно-спасательных работ на пожарах, химических и газовых производствах, нефтепроводах. Личный состав батальона насчитывает 115 человек, укомплектован он офицерами и солдатами срочной службы. Подчинен батальон начальнику гражданской обороны области, которым по должности является председатель облисполкома.

**Анатолий ИВАНОВ.**

### Католики: служба дни и ночи

**Министр культуры Беларуси Евгений Войтович заявил на вчерашней пресс-конференции, что подаст в отставку, если властями республики не будет дана принципиальная оценка захвату католиками минского зала камерной музыки.**

На днях группа католиков после богослужения отказалась покинуть костел св. Роха, в котором и находится камерный зал. Белгосфилармония была вынуждена уже отменить ряд концертов. Требования верующих бескомпромиссны — передать костел католической парафии.

**Виктор АНАТОЛЬЕВ.**




Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.


*Мы — беларусы!*

## Спадчына Мікалая Сарокі



Спадчына... Аднаму дастаюцца сад і хата, у якой некалі жыў дзед, другому — шыкоўная імпартная машына, падораная заможнымі бацькамі, трэцяму — ашчадная кніжка з кругленькімі лічбамі, падмацаванымі несалодкім жыццём продкаў, чацвёртаму...

Не, Мікалай Фёдаравіч Сарока таксама не крыўдуе на сваіх родзічаў з невялічкай вёсачкі Асіннікі, што прытулілася да самай Белавежскай пушчы. Яны, простыя сяляне, дапамагалі і дапамагаюць усім, чым могуць. Шкада вось толькі, што застаўся, як кажуць, з адным крылом — бацька раптоўна памёр яшчэ некалькі гадоў таму. Вядома, нялёгка ўпраўляцца з гаспадаркай адной маці, Веры Яўціх'еўне — як-ніяк, а пад семдзесят ужо.

Галоўная спадчына, якую атрымаў Мікалай Фёдаравіч Сарока, — гэта, бадай, кніжкі, па якіх даўным-даўно лячыў людзей дзед Карп. Ці не дзякуючы ім ды легендам, якія і па сённяшні дзень ходзяць на Брэстчыне пра самабытнага лекара Карпа Сароку, і стаў яго ўнук Мікалай медыкам. Скончыўшы школу з залатым медалём, ён паступіў у Мінскі медінстытут. Пасля — аспірантура, абарона кандыдацкай дысертацыі. А нядаўна бліскуча пацвердзіў званне доктара медыцынскіх навук. Прыемна было чуць яго настаўніку заслужанаму дзеячу навукі, прафесару Рыгору Паўлавічу Мацвяйкову ад сусветна вядомага акадэміка, дырэктара Інстытута рэўматалогіі Расійскай Акадэміі медыцынскіх навук Валянціны Аляксандраўны Насонавай:

— Мікалаем Фёдаравічам можа ганарыцца навука Беларусі...

У М.Ф.Сарокі ёсць многае з таго, што вельмі і вельмі патрэбна вучонаму і доктару. Дабавім — ён проста цудоўны чалавек. У яго сям'і дзве дачкі, жонка, Надзея Сяргееўна, — таксама медык.

**Фота Сяргея ГРЫЦА.**

*Вострая праблема*

## Старадарожскі бунт "зялёных"

**Віктар ЧАРНУШЭНКА**

... З самай раніцы невялікую плошчу перад будынкам Старадарожскага райсавета запоўніў натоўп людзей. Многія прыйшлі з плакатамі, якія развесілі на помніку Ільічу.

У 10 гадзін пачалася прамая трансляцыя праз дынамікі на плошчу пасяджэння нечарговай сесіі райсавета. (Гэтага дабілася ініцыятыўная група "зялёных".) Разглядалася пытанне — аб будаўніцтве на тэрыторыі раёна комплексу па перапрацоўцы таксічных адходаў вытворчасці. Натоўп гудзеў, як вулей, патрабуючы месца ў зале. Міліцэйскі кардон з паўгадзіны стрымліваў яго націск, а потым здаўся: чалавек 40—50 уварваліся ў памяшканне. Старшыня райсавета Тэрэза Раманоўская ледзьве супакоіла дэманстрантаў. Разумеючы, чым усё гэта можа скончыцца, яна адразу ж у прысутнасці "бунтаўшчыкоў" зачытала пастанову сесіі: дэпутаты катэгарычна супраць "палігона смерці"; у выпадку яго будаўніцтва жыхары раёна пакідаюць за сабой права блакіраваць пад'язныя дарогі... Тэрэза Фердынандаўна папрасіла таксама вылучыць з працоўных калектываў некалькі прадстаўнікоў, з якімі яна паедзе ў Мінск дабівацца адмены распараджэння ў аблвыканкаме і Саўміне.

Людзі ў рабочым адзенні патрабавалі тут жа ў зале паставіць пячатку на гэтым дакуменце і зарэгістраваць яго. Чакалі, пакуль не пакіне будынак дэлегацыя з Мінска, якую запрасіў на сесію райсавет.

Генеральнаму дырэктару дзяржаўнай фірмы "Беларускія другасныя рэсурсы" Міністэрства рэсурсаў рэспублікі Валерыю Хадыку засталося толькі канстатаваць, што яго зноў ніхто не разумее, і даць абяцанне прысутным не будаваць у раёне комплекс. Пытанне было вырашана фактычна за гадзіну. "Зялёныя" перамаглі. Але ці канчаткова?

❑

Праблема ўтылізацыі, абясшкоджвання і перапрацоўкі ядавітых адходаў вытворчасці і залежалых пестыцыдаў паўстала не сёння і не ўчора. "Хімічны Чарнобыль" наспявае даўно, наблізіўся да крытычнай кропкі. Мяркуйце самі: штогод у рэспубліцы прыбаўляецца каля 1,2 мільёна тон розных адходаў вытворчасці. З іх толькі 57,6 тысячы (5,1 працэнта) ідзе на перапрацоўку, 37,7 тысячы (3,4) абясшкоджваецца, 145,7 тысячы тон (13 працэнтаў) перадаецца іншым прадпрыемствам. Значыць, 78,5 працэнта(!) усіх шкодных рэчываў проста закопваецца ў зямлю, скідваецца ў канавы, захоўваецца з парушэннем усялякіх правілаў на складах, а то і пад адкрытым небам... Вялікая колькасць таксічных адходаў належыць да I і II класаў небяспечнасці.

У чэрвені 1991 года з'явілася пастанова Саўміна за нумарам 292 аб арганізацыі перапрацоўчых комплексаў. Функцыі адзінага заказчыка па іх праектаванню, будаўніцтву і забеспячэнню тэхналагічным абсталяваннем былі ўскладзены на фірму "Беларускія другасныя рэсурсы". Яшчэ да пачатку мінулага года яна павінна была распрацаваць схему размяшчэння гэтых комплексаў на тэрыторыі ўсёй рэспублікі — па аднаму ў кожнай вобласці. Каманда Хадыкі, у складзе якой былі прадстаўнікі розных зацікаўленых арганізацый, аб'ездзілі больш як трыццаць раёнаў, абследавалі шмат розных пляцовак. Па кожнай вобласці былі прапанаваны два варыянты — асноўны і запасны. У чэрвені мінулага года ўрад нарэшце зацвердзіў схему, прадстаўленую Міністэрствам рэсурсаў і аблвыканкамамі. Яна была ўзгоднена з усімі бакамі, акрамя ... мясцовых органаў улады.

Ні адзін раён фактычна яшчэ не даў "дабро" на будаўніцтва аб'ектаў. І наўрад ці добраахвотна зробіць гэта. Ніхто не хоча, каб яму падсунулі "ката ў мяху". А фірма "Беларускія другасныя рэсурсы" пакуль што на пальцах растлумачвае, якія будуць праекты і тэхналогія у той час, калі ўжо ёсць канкрэтныя прапановы замежных фірм. Чаму б загадзя не прадставіць на шырокі суд некалькі праектаў, не зрабіць іх конкурсны адбор? Дзе тая незалежная экалагічная экспертыза, якая абавязкова павінна быць?

У той жа густанаселенай Мінскай вобласці з дзвюх адабраных пляцовак засталася адна — у лясным масіве каля вёскі Пасека Старадарожскага раёна. Барысаўскі варыянт не прайшоў: учынілі пратэст народныя дэпутаты, іншыя ўплывовыя асобы. І калі нават сабраць разам кіраўнікоў усіх раёнаў, яны не дамовяцца, дзе ставіць комплекс. Старадарожскі раён самы чысты ў вобласці, дае самую меншую колькасць (0,3 працэнта ад агульнаабласной) адходаў вытворчасці. "Навошта паганіць гэты край?" — кажуць адны. Барысаў і Салігорск маюць найбольш развітую прамысловасць, іх доля адходаў адпаведна 32 і 18,5 працэнта. "Дык няўжо трэба зацягваць пятлю на шыі?" — стануць пярэчыць іншыя.

А што будзе, калі паўстануць супраць у Пружанах, Іўі, Ваўкавыску, Лёзна, Талачыне?.. Прапанова (яна гучала і ў Старых Дарогах) вазіць адходы ў чарнобыльскую зону нерэальная. Папершае, калі ўзводзіць комплексы за калючым дротам, то хто будзе там працаваць? Па-другое, эканамічна нявыгадна вазіць сотні тысяч тон адходаў праз усю рэспубліку. Дзе ж шукаць тое месца, якое б задаволіла ўсіх?

*Из жизни денег*

### Национальный банк разрешает получать зарплату полностью

Нацбанк республики решил внести ясность в вопрос об ограничении выплаты наличных денег. В телеграмме, подписанной Станиславом Богданкевичем, подчеркивается, что все перечисления во вклады средств, превышающих семикратную минимальную зарплату, могут производиться **только на добровольной основе** — если на то имеется согласие работника. При отказе гражданина от такого перечисления банки для начала выплачивают все ту же семикратную минимальную зарплату, а затем "принимают меры к пополнению касс для удовлетворения потребности".

Нацбанк, в свою очередь, берется сделать все, чтобы получить из Гознака России недостающую денежную наличность. Как только прибудет запрошенная денежная масса, злополучный 4-й пункт постановления от 5 марта будет отменен.

Напомним, что всему предшествовал резкий протест Федерации профсоюзов Беларуси: ведь КЗоТ гарантирует каждому работающему получение зарплаты полноценными денежными знаками и в полном объеме. Прокурор республики Василий Шолодонов с доводами профсоюзов согласился и обязал Национальный банк привести постановление в соответствие с законодательством.

### ... и наносит удар по валютному "черному рынку"

Накануне Пасхи в стенах Нацбанка подписан еще один интересный документ — о новом порядке покупки и продажи гражданам иностранной валюты. После долгого экспериментирования в этой области решено наконец снять все ограничения. С 15 апреля любой гражданин может приобрести валюту в любом количестве и без предъявления выездных документов, т.е. визы. В банке попросят предъявить только общегражданский паспорт, и то лишь в случае, если вы приобретаете свыше 500 долларов.

Специалисты считают, что эта мера призвана оживить валютный рынок. Многочисленные ограничения привели лишь к тому, что валютная торговля переместилась на "черный рынок", а в "чулках" белорусских граждан, по некоторым оценкам, осело около 150 миллионов долларов.

**Игорь ФИЛИПЕНКО.**

*Ало, вас слухае "Народная газета"*



Шаноўныя чытачы!

Заўтра, у пятніцу, 16 красавіка, па тэлефоне 29-60-42 вас будзе слухаць аглядальнік газеты па аграрных пытаннях **Павел Сцяпанавіч СТАСЕВІЧ**.

*Падзея!*

### Балет у сне і наяву

**Сёння ў сем гадзін вечара ў Вялікім акадэмічным тэатры оперы і балета Беларусі адбудзецца гала-канцэрт "Зоркі сусветнага балета — Беларускаму харэаграфічнаму вучылішчу".**

Не, гэта не сон, а сапраўдная сенсацыя — у Мінск на свята балета з нагоды адкрыцця новага архітэктурнага комплексу вучылішча з'едуцца лаўрэаты міжнародных конкурсаў, вядучыя салісты тэатраў балета рэспублік былога Саюза, краін свету — Людміла Семяняка, Юрый Васючэнка, Альдар Ахметаў, Габрыэла Комлева, Ларыса Араўжо, Мікалай Дарахаў, Анна Дораш і іншыя. Падзея, якую можна параўнаць хіба што з прыездам Рыхтэра ці Мянухіна.

**Міхаіл САКАЛОЎ.**





ПРАЦЯГ НА 2 СТАР.

